# ЦАРКОЎНЫ



Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква

Паведамленьні Парахвіяльнае Рады

# ПАСЛАНЕЦ

## Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага

CHURCH MESSENGER, P.O. BOX 5982, SOMERSET, N.J. 08875-5982

Год 17/23 | Каляды. 1995 | III/37/47


**КАЛЯДНЯЕ ВІТАНЬНЕ АД ЯГО МІЛАСЬЦІ ІЗЯСЛАВА БОЖАЙ ЛАСКАЙ МІТРАПАЛІТА ПЕРШАГЕРАРХА БЕЛАРУСКАЕ АЎТАКЕФАЛЬНАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ**






Хрыстос нарадзіўся, слаўце!

Ізь Сьвятым Днём, што ў ім амаль дзьве тысячы год назад збылося выказанае вуснамі пракокаў Божае абяцаньне й на зямлю, узяўшы з Найсьвятое Дзеўны цела, зыйшоў Божы Сын, каб збавіць людзкі род ад спадчыны першага грэху, вітаю Вас Чэсьці Годнае Духавенства й Любыя Вернікі Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, ды ўсе, дзе-б Вы ня былі, Праваслаўныя Беларусы ў духоўным і сьвецкім стане, што да гэтае роднае Сьвятое Царквы ймкняцеся, а яшчэ доступу ня маеце.

Зьвяртаюся да ўсіх Вас з заклікам з удзячнасьцяй Богу ў сэрцах за Ягоныя дабрадзействы ушанаваць гэты Сьвяты Дзень малітвамі ў сьвятынях ды нашымі гожымі прадзеднімі звычаямі ў сямейным, ці сяброўскім коле.

Жадаю, каб, гэтак годна адзначаючы Вялікае Сьвята, Вы з Божае Ласкі дазналі шчырае радасьці й у духовай бадзёрасьці, ды ў добрым здароўі крочылі на ўпадобу Богу да асягненьняў на карысьць нашае Сьвятое Царквы й любае Бацькаўшчыны, а таксама да посьпехаў у Вашых жыцьцёвых справах.

Асьцерагаю, аднак, што сьвяточная радасьць і спадарожная ёй бадзёрасьць ня будуць трывалымі, калі да Вялікае падзеі Хрыстовага Нараджэньня Вы будзеце ставіцца адно, як да прычыны аднадзёвае ўрачыстасьці, не задумоўваючыся на ейным глыбокім значэньнем, ды ня чэрпаючы йз зразуменьня гэтага значэньня навукі да Вашых далейшых учынкаў.

Нажаль бо, мала каму наўвазе, што ў гэты дзень сьвяткуецца ня чульлівы адно аповяд праз нараджэньне Божага Дзіцятка, а, галоўным чынам, пачатак вызваленьня людзкога роду ад спалае на яго зь першага грэху біды.

А дзееца яно гэтак таму,што сёньня на гэты грэх ускрозь пагляд, як на нешта незапраўднае, ці, няйнакш, як сьвятарскі выдум, які нікога з тых, што лічаць сябе разумнымі й адукаванымі, не датычыць.

Разам з гэтым ня моўкнуць нараканьні на дазнаваныя ў жыцьці крыўды ды на вакольную несправядлівасьць, што няспынна ўсім дапякае.

Адкуль-жа бяруцца гэтыя прыкрасьці, ці беды, якія людзі дазнаюць адны ад адных, калі не з таго, што нямала хто ў дачыненьні да іншых ня дзее, як трэба, або, інакш кажучы, пераступае правілы ўзаемнае няшкоднасьці, а ня раз і выніклыя зь яе пісаныя правы?!

А ці-ж хоць адзін з нас цалком чысты ад гэтае заганы?

Ды, што казаць, калі, кінуўшы вокам назад на ўсю гісторыю чалавецтва, мы бачым, што яна найбольш пазначаная крыўдамі й несправядлівасьцямі, або, як мы іх назвалі, згвалтаваньнямі правоў, ці законаў, што сягаюць першае людзкое непаслухмянасьці Божаму слову не чапаць забароненага плоду.

Збавіць людзкі род ад гэтае, намножанае пакаленьнямі, бездані жорсткасьці ды нянавісьці, або, інакш кажучы, грэху й зыйшоў на зямлю Божы Сын.

Але не праз расправу зь вінаватымі за гора, не зьвярненьнем сілаю ўлады прыгнятальнікаў Ён нам да збаўленьня шлях адчыніў, а праз слова навукі любіць Бога больш за ўсё й свайго блізкага, як самога сябе, ды дзеля гэтае любасьці, як і Божы Сын, жыцьцё ў патрэбе аддаць.

Бо сіла й кара супраціў і помсту выклікаюць, а любасьць у сумленьнях пакаяньне будзіць, ды ў сэрцах узаемнасьць родзіць.

Таму й Вы, Мае Любыя, у Сьвяты Дзень Хрыстовага Нараджэньня ўзнавеце й умацуйце ў Вашых душах, і сэрцах, любасьць да Бога, а яна Вам падкажа ў кожнай жыцьцёвай нагодзе, як дзеяць, каб быць паслухмяным Ягонай Волі, ды ў згодзе з усім, што Ён на сьвеце стварыў.

Разам з гэтым не забывайцеся Вашай любасьцяй ахапіць і блізкіх Вам, дя нятолькі сямейнікаў, але й Беларускі Народ, зь якога Вы пайшлі, ягоную Богам дадзеную мову ды нашую Бацькаўшчыну Беларусь, якой, таксама з Божага права, належыць роўнае мейсца паміж свабоднымі дзяржавамі сьвету.

А калі хто ўсуперак гэтае Праўды намаўляе Вас

грэбаваць роднай мовай, выракацца свайго Народу ды наш край аддаць у няволю, хай ён і з крыжам у руцэ, ці, хоць зь якога высокага пасаду гэтак гаворыць, не давайце веры, бо антыхрыставым зманам ён Вас спакушае.

Замест таго прыслухоўвайцеся да праўдных божых Наказаў, якія весьціць Сьвятая Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква ды спрычыняйцеся да Ейнага ўзнаўленьня на Бацькаўшчыне, каб Ейнае слова свабодна даходзіла да кожнага праваслаўнага беларуса й раіла яму, як знайсьці нязблудны шлях да заслугі ў Бога на лепшую будучыню.

Дзеючы гэтак Вы станецеся годнымі Збаўленьня, дзеля якога зыйшоў на зямлю наш Збавец Ісус Хрыстос, і Божая любасьць ды шчодрасьць будзе з Вамі, нятолькі Калядняю парою, але й на ўвесь чыста час.

**† І з я с л а ў**

**Мітрапаліт і Першагерарх**

**Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы**

## СЬВ. АДПРАВЫ АД КАЛЯД ДА ВЯЛІКАДНЯ

Божыя Службы на Каляды й далейшыя сьвяты аж да Вялікадня будуць адпраўляцца, як пададена ніжэй /усе даты паводле новага стылю/:

Наконадні Каляд, ці йнакш на Куцьцю, у сыботу, 6-га студзеня 1996-га г., а 3.00-й г.пп. — пачатак Вялікага Павячэрра з Ранічняй.

У дзень ХРЫСТОВАГА НАРАДЖЭНЬНЯ, у нядзелю, 7-га студзеня /першы дзень Каляд/ — пачатак Сьв. Літургіі а 10.00-й г. раніцы.

На Новы Год /паводле старога стылю/, у нядзелю, 14-га студзеня — пачатак Сьв. Літургіі а 9.00-й г. раніцы. Пасьля Сьв. Літургіі навагодні малебен.

На Вадохрышча, у пятніцу, 19-га студзеня — пачатак Сьв. Літургіі а 10.00-й г. раніцы. Усьлед пасьля Сьв. Літургіі будзе Вялікае Асьвячэньне Вады /Ярдань/. З гэтага дня, пасьля адправаў, пачнецца абход дамоў з Вадохрышчанскай вадою. Просьба да ўсіх парахвіянаў дамаўляцца, калі ласка, загадзя на час наведаньня.

На Грамніцы, у чацьвер, 15-га лютага, адправы ня будзе. Асьвята сьвечак будзе ў наступную нядзелю, 18-га лютага.

Запускі сёлета выпадаюць у нядзелю, 25-га лютага, а Вялікі Пост пачынаецца ў панядзелак, 26-га лютага. Гэты дзень даўней называўся паласказубам.

Кожнае нядзелі ў Вялікі Пост, як і праз цэлы год, перад пачаткам Сьв. Літургіі, ад 8.30 да 9-е г. раніцы, можна спавядацца.

У гэтым самым часе, або яшчэ лепш на колькі дзён раней, можна таксама замаўляць паніхіды й малебны, ды даваць сьпіскі імёнаў на ўспамінаньне.

17-га сакавіка — Крыжапаклонная нядзеля.

У нядзелю, 24-га сакавіка, пасьля Сьв. Літургіі малебен з нагоды 78-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі.

На Вербніцу, у нядзелю, 7-га красавіка — пачатак Сьв. Літургіі, як і ў кожную нядзелю а г. 9.00-й раніцы. У гэты самы дзень выпадае й сьвята Дабравешчаньня Божае Маці.

У Вялікі Чацьвер, 11-га красавіка — Успамін Хрыстовых Мукаў /12 Эвангельляў/ — пачатак а 6.00-й г. увечар.

Вялікая Пятніца, 12-га красавіка — Вячорня й вынас плашчаніцы на ўспамін Хрыстовых Паховінаў — пачатак а 6.00-й г. увечар.

Вялікая Сybота, 13-га красавіка — Паўночніца — пачатак а г. 11.30 увечар.

ВЯЛІКДЗЕНЬ, нядзеля, 14-га красавіка — Крыжны Ход і Заранньня, ды ўсьлед Сьв. Літургія — пачатак а 12.00-й г. уначы. Пасьля адправаў асьвячэньне пасхаў. Удзень адправаў ня будзе.

Сьв. Літургія ў Катэдральным Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне пачынаецца кожнае нядзелі а 9.00-й раніцы.

Адправы ў сьвяты, што прыпадаюць у тыдні, а таксама дадатковыя незаказаныя гэтта адправы, ці зьмены ў іх, абвяшчаюцца загадзя з амвону ў царкве.

Вячорныя адправы, апрача пададзеных гэтта вышэй, дзеля цяжкасьці даезду амаль усіх парахвіянаў і кліру, часова спыненыя.

**Наведвайце сваю родную Сьвятыню!**

## ПЕРАДСЬВЯТНІЯ РАЗВАЖАНЬНІ

Узноў набліжаюцца Каляды, а перад імі колькі тыдняў прыемнае мітусьні ў падрыхтоўцы да гэтага мілага сьвята.

Немалой часткай передсьвятняе падрыхтоўкі, асабліва для беларусаў, што жывуць у заходніх краінах, ёсьць і будзе, апрача выбару падаркаў, яшчэ й пісаньне на адумысловых паштовых картках прывітаньняў сваякам, прыяцелям ды знаёмым.

Раней, ці пазьней гэты звычай хрысьціянскага сьвету пашырыцца таксама й на Беларусь, а таму варта было-б падумаць ужо загадзя, як недапусьціць, каб ён абярнуўся ў мулкае моўнае путa.

А што так можа быць, даволі прачытаць пажаданьні, якія цяпер пасылаюць нашыя людзі адзін аднаму гэтаю парою. Ня будзе далёка ад праўды сказаць, што амаль усе яны напісаныя няйнакш, як "Вясёлых Каляд/-аў/ і Шчасьлівага Новага Году!"

Яшчэ ў 1974-м годзе на бачынах "Беларуса", а ў 1981-м у "Сьцеражы Веры" я пісаў, што перайнятае з польскага "вэсолых сьвёнт" прывітаньне "Вясёлых Каляд/-аў/" зусім не падыйходзіць да характару сьвята, бо ўстаноўленае яно, не каб даць волю жартам і сьмеху, або, інакш кажучы, весялосьці, а каб з успаміну на тое, што Божы Сын праз любасьць да людзкога роду дзеля ягонага збаўленьня зыйшоў на зямлю, адчуць у сэрцах радасьць.

Таму й пажаданьне з гэтае нагоды павінна гучэць "Радасных Каляд/-аў/, ці мо яшчэ й проста "Радай Каляды!"

Другая частка сьвятняга прывітаньня "Шчасьлівага Новага Году" таксама стала ў нас нейкай жалезнай формулай, ад якое нельга адступіцца, хоць ейны сэнс можна было-б выказаць іншым, больш свомым нашай мове, спосабам.

Для прыкладу на гэта прыйходзіць думка, што побач із словам "шчасьціць", на якім пабудаванае цяперашняе прывітаньне, у нас ёсьць яшчэ й блізкае значаньне "шчадрыць".

Ня будзе, пэўна, моўным агрэхам стварыць, ці, барджджэй, успомніць падобнае да паходнага ад першага дзеяслова назоўніка "шчасьце" й слова "шчадро", якое лепш выяўляе ўсё багацьце духовага й матэрыяльнага дабра, якое мы некаму жадаем.

Гэты вынахад будзе, аднак, нінавошта, калі не азначыць часу ягонага збыцьця, скажам, наступным годам.

Але на азначэньне наступнага, ці новага году ў нас

ёсьць слова "налецьце" ды выводнае зь яго прыслоўе "налета", якое злучанае йз "шчадром" стварае кароткае, прыгожае й запраўды свойскае пажаданьне "Шчадра Налета".

Ці "Радасных Каляд/-аў/", або "Радай Каляды" йз "Шчадра Налета!" адзіны сказ на выяўленьне добрых пажаданьняў сваякам і прыяцелям? — бязумоўна не; амаль кожны з нас, хто ўлюбаваны ў харство роднае мовы, а асабліва паэты й пісьменьнікі маглі-б знайсьці цімала іншых моўных спосабаў выказваць пажаданьні нятолькі калядняю парою, але й з нагоды іншых рэлігійных, дзяржаўных ды асабістых сьвятаў, і ўгодкаў.

Трэба, адно, нятолькі ймкнуцца засесьці на літаратурным Алімпе, але часам і сьмяротных людзей рашчуліць, ці ўцешыць даходным да іхных сэрцаў і цяму словаў, што ў памяці застаецца ды няраз і ў песьню кладзецца.

Дарэчы, успомніўшы песьню, якраз калядняю парою, больш як калі, адчуваецца ў нас нястача пабожнае песьні, што празь яе была гутарка ў папярэднім нумары "Царкоўнага Пасланца" й якую, слухаючы бясконцы лік чужых калядкаў, хочацца, каб нашыя паэты й музыкі здаволілі багацьцем сваіх твораў.

Пры згадзе калядкаў прыйходзіць на думку й ялінка, а зь ёю й постаць, што кладзе пад яе, ці прыносіць на навакольны пры ёй дзяціны збор падаркі, ды якую мы, ня вельмі думаючы, панадзіліся зваць Дзедам Марозам.

Ня кажучы ўжо, што гэта непатрэбны расейскі госьць, дзіўна робіцца з повязі, якую мы робім паміж марозам, ды цяплом і радасьцяй вялікага хрысьціянскага сьвята.

Ці-ж не разумней і больш натуральна было-б, як гэта зрабілі нашыя суседзі жамойды, ускласьці даручэньне калядніх падаркаў на свойскага й прыцешлівага Дзеда, або Дзядулю Каляду?

Набеглыя з набліжэньнем Калядаў моўныя разважаньні, наўсуперак намеру, разганяюцца, каб крануць яшчэ й іншыя патрэбы, што адчуваюцца нам у пісьме ды гутарцы.

З усіх іх давядзецца выбраць на ўспамін хіба адну, а прычынай на гэта вестка пра складзеныя ўжо на Бацькаўшчыне тэрміналягічныя слоўнікі вышэйшае матэматыкі ды некаторых іншых, ня ўсім цямных дысцыплінаў, з чаго, ведама, трэба цешыцца.

Усьцеха гэтая, нажаль, кароткая, бо спусьціўшыся з аблокаў матэматычнага мысьляваньня на зямлю, нам у сьвята й звычайны дзень не хапае словаў, каб называць рэчы й разуменьні, зь якімі сустракаемся бясконца ў жыцьці, ды якіх мы ня ведаем, або іх дасюль няма ў беларускай мове.

Зь нястачы гэтых словаў нат залюбленыя ў родную мову людзі мусяць карыстацца згрызьлівай сэрцу трасянкай, або паслугоўвацца расьцяглымі апісаньнямі.

Адзіная рада на гэта й неадкладаня патрэба скласьці тэматычныя слоўнікі побытавае тэрміналёгіі, як, прыкладам, назоваў страваў і пасілкаў, частак дому й ягонага навакольля, тавараў штодзённага спажываньня, сучасных хатніх прыладаў, адзежы й абутку, ды г.д.

Тады адно можна будзе спадзявацца, што кожны ахвочы зможа бяз блуду гаварыць на сваёй мове.

І гэта, зь іншымі, на від дробнымі азнакамі й праявамі нашае Богам дадзенае апрычонасьці, якія трэба ўспамінаць, штодня практыкаваць ды ўзбагачаць, у суме створыць аснову й заруку нашае незалежнасьці, на якія непарушна абапруцца ейныя сымбалі й установы.

Зь вераю, што гэты артыкул мо крыху й спрычыніцца, каб так сталася, я сконччу мае перадсьвятнія разважаньні пажаданьнем усім чытачам "Царкоўнага Пасланца" Радай Каляды й Шчадра Налета!

**Барыс Данілюк**

## Я. М. МІТРАПАЛІТ ІЗЯСЛАЎ
### /У 70-я ўгодкі жыцьця й 15-я хіратоніі/

22-га студзеня 1995-га г. збываецца 70-т год з дня нараджэньня Я.М. Мітрапаліта Ізяслава, а 22-га лютага 15-ць год ад ягонае хіратоніі ў япіскапскую годнасьць. З гэтымі падвойнымі ўгодкамі настае й пара пазнаёміць урэшце праваслаўных беларускіх вернікаў на Бацькаўшчыне й у сьвеце, ды ўсё беларускае грамадзтва з жыцьцём гэтага ахвярнага, а гэтулькі пацярпелага ад варожых інтрыгаў ды ад беларускае прыткасьці выслугоўваньня чужым інтарэсам, архіпастыра.

Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў, у сьвеце Іван Бруцкі, нарадзіўся 22-га студзеня 1926-га году ў сяле Белавуша, цяпер Столінскага раёну, Берасьцейскае вобласьці, а тады пад Польшчай, у сялянскай сям'і Данілы й Марыі Бруцкіх-Стэмпкоўскіх. Іван быў трэйцім сынам у сям'і, а пасьля яго яшчэ прыйшлі на сьвет дзьве сястры й адзін брат, які памёр зусім малым.

У бацькоў была прыблізна 25-ці гэктаравая гаспадарка, якую яны ўмела й дбайліва апрацоўвалі, а сам бацька ўзімку падзарабляў яшчэ вывазкай лесу. За ягоную гаспадарнасьць і пісьменнасьць Іванаў бацька карыстаўся ў сяле агульнай павагай, дзеля якое й быў выбіраны на солтыса, ды валаснога раднага.

Іван, тымчасам, з 1933-га году пачаў хадзіць у польскую пачатковую школу, 6-тую клясу якое скончыў увесну 1939-га году. Побач з навукай у польскай школе, пабожныя й актыўныя ў жыцьці мяйсцовае праваслаўнае парахвіі, Іванавыя бацькі вучылі яго й кірылічнай граматы, каб умеў чытаць поры /часы/ й памагаць у адправах.

Увосень 1939-га году Заходнюю Беларусь зайняў Савецкі Саюз і для Бруцкіх ранейшае нялёгкае жыцьцё пад польскай акупацыяй неўзабаве абярнулася ў трывожнае ды небясьпечнае йснаваньне пад савецкай уладай, бо напачатку лета 1940-га г. бацька быў арыштаваны й, пасьля 10-ці месячнага зьняволеньня ў турме, вывезены ў Казахстан, чаго чакала й рэшта сям'і. Незважаючы на гэтую пагрозу Іван, усё-ж, пайшоў у пераарганізаваную на савецкі лад школу, дзе й вучыўся аж да пачатку нямецка-савецкае вайны ў 1941-м годзе.

Насталая пасьля пачатку нямецка-савецкае вайны ўлетку 1941-га году нямецкая акупацыя ня прынясла сям'і Бруцкіх жаданага спакою, бо да цяжкасьці здабываньня хлеба без гаспадара, у хуткім часе далучылася яшчэ й небясьпека расправы, як зь сям'ёй "ворага народу", з боку савецкіх партызанаў. Да таго акупацыйны рэжым у Райхскамісарыяце Ўкраіны, да якога тады было далучанае Палесьсе, не схацеў адчыняць школы, а моладзь, што падрастала, стаў раз-за-разам забіраць на работу ў Нямеччыне.

У адзін з гэтых набораў трапіў у канцы травеня 1943-га году й сямнаццацігадовы Іван Бруцкі ды ў выніку апынуўся ў "остарбайтарскім" лягеры ў Фленсбургу, каля мяжы з Даніяй. Папрацаваўшы коратка на фабрыцы, покуль яе разьбілі амэрыканскія бамбавікі, ён быў узяты на паправу рэйкавых усьцілаў на чыгунцы, дзе й працаваў да капітуляцыі Нямеччыны.

Калі скончылася вайна Іван наважыў ня ехаць дамоў на ўзнава акупаваную саветамі зямлю, а застацца за мяжою й з гэтае прычыны мусеў колькі месяцаў хавацца ад прымусовае рэпатрыяцыі ў Савецкі Саюз.

Як адно вывазы на ўсход прыціхлі й пачалі арганізавацца ўцякацкія асяродкі, а ў іх культурнае й асьветнае жыцьцё, Іван, даведаўшыся, што ў украінскім лягеры ў Гановэры адчыняецца гімназыя, адразу падаўся туды на навуку. У гімназыі ён быў прыйняты на матуральны курс, які скончыў з атэстатам сьпеласьці навесну 1947-га году

Імкнучыся да вышэйшае асьветы, а ня маючы матарыяльных магчымасьцяў здабываць яе ў Нямеччыне, Іван улетку 1947-га году выехаў у Канаду, дзе напачатку каля году працаваў на высяку лесу ў правінцыі Антарыё. Адпрацаваўшы тэрмін кантаркту, у 1948-м годзе ён пераехаў у Вініпэг у цэнтры Канады, дзе знайшліся людзі з роднага сяла, што выехалі з Краю яшчэ перад вайною.

Там, сьпярша працаваў на фабрыцы, але жаданьне здабыць вышэйшую асьвету не пакідала яго й таму, падвучыўшыся ангельскае мовы, пайшоў на падрыхтоўчы унівэрсытэцкі курс і ўжо ўвосені 1949-га году пачаў студыі будаўнічае інжынерыі на Манітобскім унівэрсытэце, зарабляючы на жыцьцё й навуку на часовых і летніх работах.

На пачатку 1949-га году, Іван, пасьля амаль 9-ці гадовае разлукі, меў радасьць сустрэцца з бацькам, якому пашчасьціла вырвацца з польскай арміяй Андэрса з Савецкага Саюзу й апынуцца да канца вайны зь сем'ямі вайскоўцаў ажно ў Уганьдзе, што ў Усходняй Афрыцы, ды ўрэшт на сынавае патрабаваньне пераехаць у Канаду.

У 1954-м годзе Іван Бруцкі завяршыў унівэрсытэцкія студыі здабыцьцём інжынерскае ступені й пачаў працаваць у дарожным адзьдзеле правінцыі Антарыё. У гэтай правінцыі, улучаючы й ейную сталіцу Таронта, зьмяняючы, дзеля лепшага заработку, працу колькі разоў, ён працаваў ажно да 1962-га году.

Не адныя, аднак, заработкі цікавілі маладога інжынера, больш яшчэ цягнула яго да беларускае нацыянальнае працы, актыўным удзельнікам якое ў грамадзкай арганізацыі й у мяйсцовай Таронцкай парахвіі БАПЦ, ён неўзабаве становіцца. Працуючы ў Таронта ў 1957-м годзе ён быў нават старшынём Згуртаваньня Беларусаў Канады.

Улетку 1962-га году Івану ўдалося легальна эміграваць у ЗША й атрымаць працу ў Дэтройце.

І гэтта ён, апрача прафэсыянальнага зайнятку, нямала часу прысьвячаў беларускім справам, праз два гады займаючы становішча старшыні адзьдзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня /БАЗА/ ды бяручы ўдзел у дзейнасьці Камітэту Паняволеных Народаў і этнічнае групы рэспубліканскае партыі.

Буйнае разьвіцьцё эканомікі штату Каліфорнія пачынаючы з 60-х гадоў, што прыцягнула мільёны амэрыканцаў туды пераехаць, заахвоціла й інжынера Бруцкага падацца іхным сьледам ды знайсьці працу ў Лос Анджэлэс. Там ён таксама адразу ўлучыўся ў беларускае грамадзкае жыцьцё, праз чатыры гады выконваючы абавязкі старшыні мяйсцовага адзьдзелу БАЗА ды ўзноў займаючыся дзейнасьцяй у Камітэце Паняволеных Народаў, і рэспубліканскае партыі.

У 1969-м годзе сустрэла яго цяжкое перажываньне, бо давялося назаўсёды разьвітацца з бацькам, які пасьля 29-ці год разлукі ня мог больш стрываць тугі па сям'і й роднай зямлі, ды вярнуўся на Беларусь.

Беларускае грамадзкае жыцьцё ў Каліфорніі, у якім браў актыўны ўдзел Іван Бруцкі, дзеля малое колькасьці аселых там беларусаў, не давала, аднак, магчымасьці стварыць сталы ягоны асяродак, дзе гуртавалася-б арганізацыйная ды царкоўная дзейнасьць.

Тымчасам гэткі асяродак існаваў і спорна разьвіваўся ў Клі́ўлэндзе, што ў штаце Огаё, дык туды ў канцы 1969-га году Іван Бруцкі й пераехаў. Гэтта ён праз два гады быў старшынём Парахвіяльнае Рады Царквы Жыраўскае Божае Маці БАПЦ і з гэтае пары пачынаецца ягоная царкоўная дзейнасьць.

Вясною 1971-га году здараецца яму ў жыцьці рэдкая радасьць, бо, паехаўшы ў Польшчу, сустракаецца з маці й з братам ды сёстрамі, якіх ня бачыў 28 год, а якім пашанцавала тады атрымаць дазвол на адвед за мяжою.

У гэтым самым годзе ён варочаецца ў Дэтройт, дзе ўжо была заснаваная й набыла свой будынак парахвія БАПЦ і дзе, апрача ранейшых абавязкаў у БАЗА ды вонкавае рэпрэзэнтацы беларускае грамады, улучыўся таксама й у жыцьцё парахвіі, ды БАПЦ наагул. Дзейны свой удзел у парахвіяльным жыцьці ён выяўляў на становішчах старшыні Парахвіяльнае Рады, ейнага скарбніка й сакратара, ды нават дзяка пры адправе Божых Службаў. Быў таксама абраны сябрам Рады БАПЦ ды дэлегатам на Сабор БАПЦ у 1972-м годзе, што адбыўся ў Гайлэнд Парку.

Актыўны ўдзел у царкоўным жыцьці моцна ўзбудзіў у душы інжынера Бруцкага цягу да вышэйшых духовых вартасьцяў і да службы Богу, ды Бацькаўшчыне ў ролі духаўніка, да чаго ён адразу й пачаў рыхтавацца.

Ягоная гатовасьць прысьвяціць сябе Божай Справе між свайго Народу сустрэла падтрымку з боку сьв.пам. Мітрапаліта Андрэя й 29-га красавіка 1979-га году Іван Бруцкі быў усьвячаны на дыякана, а 26-га жнівеня таго-ж году Архіяпіскапам Мікалаям на сьвятара.

Дбайны праз далейшае йснаваньне БАПЦ і памятны на свой паважны век сьв.пам. Мітрапаліт Андрэй імкнуўся як найхутчэй павялічыць колькасьць япіскапаў.

Паводле агульнае адукацыі сьвятар Ян Бруцкі на гэтае становішча адпавядаў, не хапала яму толькі фармальнае духоўнае асьветы. Матэрыяльна, усё-ж, дазволіць на гэткую асьвету сьвятар БАПЦ мог адно ў Украінскай Праваслаўнай Сэмінарыі ў Баўнд Бруку, калі, пры гэтым, ягоныя мінімальныя патрэбы былі-б забясьпечаныя недалёкай парахвіяй БАПЦ у Гайлэнд Парку, куды Мітрапаліт Андрэй айца Бруцкага й прызначыў.

Да гэтае думкі даходзіла яшчэ й спадзяваньне, што падтрыманы зарганізаваным грамадзтвам беларускі япіскап, знайходзячыся ў цэнтры эміграцыйнае нацыянальнае дзейнасьці, зможа зрабіць на карысьць Беларускае Справы ня менш, як гэта робяць у ЗША япіскапы іншых народаў. Выглядала, што гэткая

лёгіка, была-б зразумелай і кожнаму беларускаму патрыёту.

Нажаль, лёгіка ў думаньні й дзеяньні беларускае эміграцыі й ейных дзеячоў у асаблівасьці, найчасьцей роўная розуму беларускіх выбаршчыкаў, што галасавалі "за" ў Лукашэнкаўскім рэфэрэндуме, ды якіх, зь вялікай сьвятасьцяй на языку, ганіць ці адзін наш краянін за мяжою.

З гэтае, вось, спрытна выкарыстанае ворагамі, нястачы лёгікі, эліта беларускае эміграцыі, а за ёю й нямала ўверных ёй людзей, замест вітаць выпрабаванага ў патрыятызме, ды ахвярнага служыць Богу, кандыдата на япіскапы, паставіліся да яго варожа ды ўзяла сабе за мэту, калі не перашкодзіць яму ўзыйсьці на высокае царкоўнае становішча, дык зрабіць выкананьне ягоных абявязкаў немагчымым.

За вонкавую прычыну непрыязьні да кандыдатуры а. Бруцкага было выкарыстанае прызначэньне Мітрапалітам Андрэям дасюлешняга кіраўніка парахвіі ў Гайлэд Парку на гэткае-ж становішча ў Кліўлэндзе, чаго, як ня дзіўна, нямала-хто ў абедзьвюж парахвіях да тае пары дамагаўся.

Пры нягоднай дапамозе, пазбаўленага пазьней за гэтую й іншыя шкоды царкоўнаму адзінству й парадку япіскапскае годнасьці, былога архіяпіскапа Мікалая, варожы намер не дапусьціць да хіратоніі новага япіскапа БАПЦ амаль асягнуў свае мэты, але апісаньне зьвязаных з гэтым падзеяў лепш падыйходзіць на тэму да асобнага артыкулу, якую хоць прыкра чапаць, але давядзецца разгледзець у адным з найбліжэйшых нумароў "Царкоўнага Пасланца".

Разумеючы варожую натхнёнасьць узьнятых перашкодаў сьв.пам. Мітрапаліт Андрэй ад свае мэты не адступіўся й дзякуючы прыязьні, ды дапамозе Украінскае Праваслаўнае Царквы ў ЗША 22-га лютага 1981-га году ў Царкве-Помніку Сьв. Ап. Андрэя Першапакліканнага, што ў Баўнд Бруку, Н.Дж., а. Ян Бруцкі Мітрапалітам УПЦ Мсьціславам і Архіяпіскапам Арэстам, ды Мітрапалітам БАПЦ Андрэям быў хіратанізаваны ў япіскапскую годнасьць з манаскім імём Ізяслаў.

Пасьля гэтае радаснае падзеі чакала яго, аднак, не спакойная й з таго шчодрая на плод праца на царкоўнай ніве, а прыкрае й зморнае змаганьне за кананічнае йснаваньне БАПЦ ды нутраную ў Ёй законнасьць і парадак.

Узноў-жа пакінем дакладнейшае апісаньне гэтага змаганьня на асобны артыкул, а сьцьвердзім адно, што яно вернага складзенай прысязе япіскапа Ізяслава не зламала.

Не спалохала яно й не зманула вернае пабожным мэтам і годным правілам БАПЦ, а не палітыканскім штукарствам, духавенства й вернікаў, што зь іхнымі парахвіямі засталіся сьпярша пры Мітрапаліце Андрэю, а пасьля ягонае сьмерці ў травені 1983-га году, пры выбраным у травені 1984-га году на чарговым III-м Саборы БАПЦ у Манчэстары, што ў Англіі, на мітрапалічы пасад архіяпіскапе Ізяславе.

І ён гэты ўскладзены на яго давер, ня гледзячы на нясьцішны варожы супраціў і перашкоды, ды матэрыяльныя цяжкасьці, з чэсьцяй сабе выпраўдаў.

За час свайго япіскапства й побыту на мітрапалічым пасадзе Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў тры разы наведаў парахвіі БАПЦ у Англіі й гэтулькі-ж разоў парахвіі ў Аўстраліі, а паміж візытамі ўтрымоўваў зь імі сталую лучнасьць.

У 1990-м годзе старшынстваваў на скліканым у Нью Ёрку IY-м Саборы БАПЦ, утрымоўваў, дзе магчыма, лучнасьць зь іншымі Праваслаўнымі Цэрквамі ды рэпрэзэнтаваў і заступаўся за беларускія інтарэсы перад дзяржаўнымі амэрыканскімі дзейнікамі.

Даглядаў і клапаціўся, каб голас БАПЦ дайходзіў да Ейных вернікаў у сьвеце й да праваслаўных беларусаў на Бацькаўшчыне друкам і наказным словам.

Горка й крыўдна робіцца здумваючы, колькі болей гэты добры Архіпастыр мог-бы яшчэ асягнуць, калі-б былі на гэта лепшыя матэрыяльныя магчымасьці, калі-б тыя, што высунуліся на павадное чало беларускае эміграцыі й адраджэнскага руху ў Краі, замест байкатаваць, сталі побач зь ім да згоднае й плоднае працы на Божую славу й карысьць нашае Бацькаўшчыны.

Будзь, ці ня будзь гэткае супрацоўніцтва, зь мінулага дазнаньня бяз сумневу ведама, што Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў з гонарам свае абавязкі, як выконваў, гэтак і будзе выконваць, ды, як зрабіў ужо шмат дабра, гэтак яшчэ больш яго зробіць на прыбытак Божай Справе й любай усім нам Беларусі.

Дык падзякуйма яму за ягоныя асягненьні ды пажадайма, каб яшчэ праз шмат год жыцьця ў добрым здароўі ён гэтыя асягненьні памнажаў.

Іс полла эті Дэспота, Дарагі Ўладыка Мітрапаліт!

## НОВЫ КІЕЎСКІ ПАТРЫЯРХ УКРАІНСКАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ

У днях 20-22-га кастрычніка г.г. у Кіеве адбыўся Сабор Украінскае Парваслаўнае Царквы Кіеўскага Патрыярхату, што быў скліканы з мэтай выбару наступніка на пасад нядаўна памерлага Патрыярха Ўладзімера I-га.

Мейсцам нарадаў і ўрачыстасьцяў Сабору, у якіх узяло ўдзел 174-х дэлегатаў ад духавенства й вернікаў з 28-мі япархіяў, быў Сьв. Уладзімерскі сабор. Гасьцьмі на Саборы былі прадстаўнікі ўкраінскіх праваслаўных цэркваў у ЗША, Канадзе й Англіі, а таксама ўраду Украіны.

На першы дзень Сабору на патрыяршы пасад былі запрапанаваныя 4-ы кандыдаты, але 3 зь іх адмовіліся й, калі не знайшлося іншых, 160-ма галасамі на гэтае высокае становішча быў выбраны дасюлешні сьцераж патрыяршага пасаду Мітрапаліт Філарэт /Дэнысэнко/.

Вынікі выбару ня прыйшліся даспадобы дзе-якіх герархаў і ад УПЦ адыйшлі, ды далучыліся да Ўкраінскае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, што ачоленая Патрыярхам Зьмітрам I-м, 4-ы япіскапы зь іхнымі япархіямі.

Не зважаючы на гэта, інтранізацыя новавыбранага Патрыярха Філарэта I-га адбылася 22-га кастрычніка, хоць і не ў Сафійскім Саборы, куды доступ ня быў дазволены ўрадам, ды ўсё-ж дужа ўрачыста ў Сьв. Уладзімерскім, што быў поўны вернікаў.

У слове пасьля інтранізацыі Яго Сьвяцейства Патрыярх Філарэт I-шы сказаў, што мэтай ягонае дзейнасьці на абнятым пасадзе ёсьць устанаўленьне на Ўкраіне, неабходнае дзеля ўзмацаваньня ўкраінскае дзяржавы, нацыянальнае Краёвае /Памеснае/ Праваслаўнае Царквы, што можа быць асягнутае праз

задзіненьне асобных цяпер царкоўных юрысдыкцыяў, на што ён прысьвяціць сваё жыцьцё.

З нагоды інтранізацыі Яго Сьвяцейства Філарэта І-га, Патрыярха Кіеўскага й Усяе Ўкраіны УПЦ, прывітаньне яму ад Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы выслаў Я.М Мітрапаліт Ізяслаў.

## ПАРАХВІЯ СЬВ. ДУХА Ў ІСТПОЙНЬЦЕ

Пасьля звыш аднагадовых спробаў узнавіць дзейнасьць Парахвіі Сьв. Духа, а пры ёй і беларускага асяродку ў Істпойньце, што ў штаце Мічыгэн, на якія дазнаючы цяжкія матарыяльныя нястачы, прысьвяціў сябе Высака Годны А. Архімандрыт Інакент, выявілася, што асягнуць гэтую мэту, дзеля абыякавасьці да яе мяйсцовага эміграцыйнага актыву, немагчыма.

З увагі на гэта ад пачатку верасьня г.г. рэгулярныя адправы ў Істпойньцкай Царкве Сьв. Духа спыненыя, а справу ейнае будучыні, у залежнасьці ад абставінаў, разьвяжа Кансысторыя БАПЦ.

Кансысторыя БАПЦ, а зь ёю, пэўна, і ўсе вернікі БАПЦ выказваюць Высака Годнаму А. Архімандрыту Інакенту гарачую падзяку за ахвярнае выкананьне безпасьпяховага абавязку ды жадаюць яму багатых асягненьняў ў службе Богу пры Манастыры Чатырох Эвангелістаў, і Інстытуце Праваслаўных Студыяў у Гюстоне, што ў Тэксасе, куды ён вярнуўся.

## ЦАРКВА СЬВ. ВІЛЕНСКІХ МУЧАНІКАЎ
**Мэльбурн, Аўстралія**

Пад энэргічным і адданым Божай Справе кіраўніцтвам А.ППрсьв. Аляксандра Кулакоўскага Парахвія Сьв. Віленскіх Мучанікаў у Мэльбурне, што ў Аўстраліі, далей выконвае павадную ролю ў жыцьці аселых ў той частцы сьвету беларусаў.

У нядзелю, 19-га лістапада г.г. Парахвія ўрачыста адзначыла 14-я ўгодкі асьвячаньня свайго царкоўнага будынку, якое ў 1981-м годзе выканаў тады яшчэ япіскап, а сёньня Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў.

З гэтае нагоды, пры большым, як у звычайныя нядзелі, зборы вернікаў, А.ППрсьв. А.Кулакоўскі пасьля Сьв. Літургіі адправіў падзячны малебен.

Усьлед за Божымі Службамі ў прыцаркоўнай залі, дзякуючы ахвярнай працы парахвіяльнага сястрыцтва, быў прыгатаваны сьвяточны стол, за які засела звыш 60-ці асобаў.

Урачыстасьць ня была, аднак, абмежаная да спажыцьця пачастунку, але й здаволіла прысутных духовай стравай, бо апрача прынагодных прамоваў падчас яе чуліся дэклямацыі беларускае паэзыі, а дзявочы гурток, ня першы ўжо, зрэштай, раз, узрадаваў усіх прыгожымі роднымі песьнямі.

Адчуваючы сябе як на Бацькаўшчыне ўдзельнікі ўрачыстасьці доўга не разыйходзіліся з гэтае радаснае сустрэчы.

Калі ў рэдакцыю "Царкоўнага Пасланца" дайшла вестка праз угодкавае сьвяткаваньне 19-га лістапада, Парахвія Сьв. Віленскіх Мучанікаў у Мэльбурне ўжо рыхтавалася да ўшанаваньня ў наступную нядзелю Памяці Змагароў за Незалежнасьць Беларусі.

Жыцьцё Мэльбурнскае Парахвіі БАПЦ не абмежваецца, аднак, да царкоўных і нацыянальных урачыстасьцяў — пры ёй існуе яшчэ й Беларускі Сацыяльны Клюб, што дбае праз таварыскае жыцьцё звыш чатырох дзесяткаў ягоных сяброў, дзеля чаго ладзіць экскурсыі, пікнікі, падарожжы й разрыўкі.

Кіраўнік Парахвіі А.ППрсьв. А.Кулакоўскі, таксама, апрача пастырскіх абавязкаў сярод вернікаў, яшчэ й выдатна рэпрэзэнтуе іх і ўсю БАПЦ у мяйсцовай міжцаркоўнай арганізацыі, у якую ўвайходзяць 22-ве розныя парахвіі й дзе А. Аляксандр ёсьць сябрам экзэкутывы.

З прыемнасьцяй даводзячы гэтыя добрыя весткі да ведама чытачоў "Царкоўнага Пасланца" хочацца пажадаць вернікам Парахвіі Сьв. Віленскіх Мучанікаў у Мэльбурне ды іхнаму Кіраўніку А.ППрсьв. А. Кулакоўскаму, каб з Божае ласкі змаглі яшчэ шмат год у добрым здароўі плодна, як і дасюль, працаваць на карысьць Сьв. Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы й нашае Бацькаўшчыны, ды дачакацца падмацаваньня сабе новымі дзейнымі сіламі з роднага Краю.

## СЬВЯТА СТАРАЖЫТНАБЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАСЬЦІ

Сучасная сыстэма дзяржаўнае ўлады ў Беларусі падпадае пад клясычную фармулёўку паняцьця ДЫКТАТУРА: "Пры дыктатарскім паліт. рэжыме адбываецца канцэнтрацыя ўлады ў руках адной асобы..., палітыка ажыцьцяўляецца мэтадамі насільля і тэрору. Неабмежаваная і бескантрольная ўлада суправаджаецца наступленьнем на абвешчаныя канстытуцыяй правы і свабоды, абмежаваньнем правоў прадстаўнічых органаў і г.д. Як спосаб ажыцьцяўленьня ўлады Д. — альтэрнатыва дэмакратычнаму рэжыму". ("Юрыдычны энцыклапедычны слоўнік", Мн., 1992. С.179)

Падзеі ў Беларусі запачаткавалі ідэю правесьці Сьвята Старажытнабеларускае Дзяржаўнасьці, тэмаю якога сталася б закона- і дзяржаватворчая спадчына Беларусі. Пунктам адліку невыпадкова быў абраны выдатны помнік эўрапэйскае юрыдычнае думкі й асноўны закон нашае дзяржавы ў мінулым Статут Вялікага Княства Літоўскага, які пабачыў сьвет у трох рэдакцыях на працягу 1529-88 г.г.

У нядзелю 1 кастрычніка г.г. ў грамадзкай залі Катэдральнага Сабору імя Сьв. Кірылы Тураўскага БАПЦ сабраліся парахвіяне й госьці, у т.л. нядаўна прыбылыя зь Беларусі. Ва ўступным слове сп. Барыс Данілюк зазначыў грамадзкую важнасьць вывучэньня гісторыі дзяржаўнасьці Беларусі-Літвы.

З рэфэратам пра Статут ВКЛ выступіла сп-ня Алеся Сёмуха, якая разгледзела асноўны закон ВКЛ перш заўсё ў кантэсьце праблемаў: 1/ этычна-маральная база заканадаўства; 2/ абарона інтарэсаў дзяржавы; 3/ абарона правоў асобы; 3/ падзел уладаў каралеўскае, заканадаўчае, выканаўчае, судовае й духовае. Апрача агульнае характарыстыкі сыстэмы Статуту ВКЛ і тагачаснае юрыдычнае практыкі, аўтар зрабіла параўнаньне некаторых артыкулаў дакумэнту з сучаснымі прававымі нормамі й практыкай.

Істотнай праблемай сучаснага заканадаўства Беларусі называлася незабясьпечанасьць яго якім-кольвек агульнаўнівэрсальным маральным кодэксам. Насельніцтва Беларусі, на думку аўтара рэфэрату, жыве народна-побытавай мараллю, г.зн. страхам перад уладай і безадказнасьцю перад сабой і ў гэтым сэнсе яно як-бы пазбаўленае ўнівэрсальнага маральна-духовага ідэалу. Пануючы крытэрый сацыяльнага дабра непадмацаваны ідэяй духу — нацыянальнай, рэлігійнай ці творчай. Гэткі тып грамадзтва, паводле аўтара рэфэрату, ня ведае, чаго ён хоча, дзеля чаго яму патрэбна дзяржава, й свае абавязкі перад дзяржавай яно выконвае альбо пад прымусам альбо дзеля ўзбагачэньня. У падобным грамадзтве пануе нігілізм да культуры, да маралі, да нацыі, да дзяржавы, ды, у сваю чаргу, да права.

Грамадзяне падобнай краіны перастаюць успрымаць паняцьці дзяржаўнасьці й законнасьці праз катэгорыі сакральнага , годнага.

Да нядаўняга часу афіцыйным маральным зводам быў Маральны кодэкс будаўніка камунізму. Цяпер на ягоным мейсцы вакуум. Нават прысяга, якую складаў сёньняшні прэзыдэнт Беларусі, не абапіралася на паняцьці гонару й годнасьці, адказнасьці перад Богам і Нацыяй, гаварылася адно пра адказнасьць перад народам і Канстытуцыяй. Прысяга сёньня зусім згубіла юрыдычны сэнс, бо сучаснае заканадаўства не рэглямэнтуе формы адказнасьці за парушэньне прысягі.

Шэраг важных, вызначальных для формы дзяржаўнасьці пунктаў і нормаў сучаснага заканадаўства не падмацаваныя канкрэтнай працэдурай рэалізацыі й кантролю. Гэткім чынам, ствараецца фармальная падстава злоўжываньняў і прававога гвалту. Нават раўнуючы да Статуту й прававое практыкі ВКЛ была б, напрыклад, недапушчальная сёньняшняя сытуацыя ў Пасольстве Беларусі ў Расеі, у якім ці ня цэлы склад чыноўнікаў не мае беларускага грамадзянства.

Важным дасягненьнем юрыдычнай сыстэмы ВКЛ аўтар рэфэрату назвала замацаваны падзел сьвецкага й духовага права, што забясьпечваў роўнасьць перад законам розных канфэсый. Традыцыя была перанятая й заканадаўствам Рэспублікі Беларусь ды паступова ажыцьцяўлялася, аднак цяпер ізноў наступіў рэгрэс. Нядаўна зацьверджанае ў Беларусі Палажэньне пра царкоўныя арганізацыі фактычна надае Расейскай Праваслаўнай Царкве ў Беларусі статус дзяржаўнай царквы. Тым часам, дзейнасьць іншых канфэсый падпадае пад асаблівы рэжым кантролю й рэгістрацыі, ды некаторыя хрысьціянскія канфэсыі ўжо· афіцыйна азначаюцца як “сэкты”.

Па пытаньнях, закранутых у рэфэраце, выказаўся аўтар шэрагу публікацый па гісторыі ВКЛ сп. Пётра Манькоўскі. Ён жа сфармуляваў фэномэн дэмакратычнасьці фэадальнага заканадаўства ВКЛ, акрэсьліў этапы распрацоўкі Статуту й істотныя адрозьненьні паміж трыма рэдакцыямі. Выступы й пытаньні іншых удзельнікаў Сьвята былі прысьвечаныя стану вывучэньня юрыдычнае думкі Беларусі, сучаснай прававой сытуацыі ў Беларусі, узроўню правасьвядомасьці насельніцтва.

Рэзюмэ абмеркаваньня можна быць гэткім: Разбурэньне ўладнымі структурамі заканадаўства краіны, атрыбутаў дзяржаўнасьці й мэханізму дэмакратыі пагражае існаваньню сучаснай беларускай дзяржавы. Нізкая правасьвядомасьць сучаснага беларускага грамадзтва спрыяе пагаршэньню агульнага ўзроўню законнасьці ды спараджае своеасаблівы грамадзкі кансэнсус /ці згоду/ на парушэньне законаў усімі — структурамі ўлады й кіраваньня ды паасобнымі абывацелямі. Пагвалчаная законнасьць і дыктатарскія мэтады кіраваньня аддаляюць Беларусь ад дэмакратыі й прагрэсу.

З досьведу гісторыі, аднак, ведама, што рана ці позна любыя дыктатуры занепадалі, каб саступіць мейсца больш дэмакратычнай форме кіраваньня.й жыцьця народаў.

Сьвята завяршылася традыцыйным аптымістычным сьпевам “Мы выйдзем шчыльнымі радамі”.

## ПРАВАСЛАЎЕ Ў СЬВЕЦЕ Й МЫ

Наўсуперак уяваў цімала каго з праваслаўных, а між імі найбольш мо беларусаў, што Праваслаўю шкодзіць падзел на нацыянальныя цэрквы й юрысдыкцыі, задзіненьне якіх пад уладай нейкага, няйнакш, нярымскага папы дало-б нашай веры прэстыж і моц сярод мноства іншых веравызнаньняў у сьвеце, як-раз намаганьні падпарадкаваць сабе найбольшую колькасьць вернікаў, ды іхныя малітоўныя згуртаваньні, паглыбляюць дасюлешні падзел і не дазваляюць пабудаваць разамства Праваслаўнае Царквы на асновах хрысьціянскае любасьці.

Не губляючыся ў гэаграфічна вузкіх, а паходных ад найгалоўнага, міжцаркоўных канфліктах, трэба заўважыць, што гэтым галоўным нутраным канфліктам, ці прычынай разьбіцьця Праваслаўя ёсьць навага Маскоўскае Патрыярхіі абняць у ім першынства й супрацiў з боку Канстантынопальскага Патрыярха, каб гэтае хісткае пяршынства захаваць.

Толькі з гэтай запраўднасьцяй наўвеце магчыма з большага зразумець, што сёньня дзеецца ў нутраным жыцьці, узаемна між сабою вызнаных за кананічныя, Праваслаўных Цэркваў, іхных дачыненьнях адна з адною, ды зь іншымі хрысьціянскімі супольнасьцямі.

Падзел хрысьціянства на ўсходняе й заходняе ў 1054-м годзе не стаўся назаўсёды адным і пазьней за ім на захадзе адкалоліся лютэране, англікане й іншыя пратэстанцкія веравызнаньні, а на ўсходзе пачала аспрэчваць пяршынства Канстантынопальскага Патрыярха маскоўская дзяржаўная Царква.

Ейны сяг па зьверхнасьць над усімі, ведама, ня йшоў зь імкненьня да нейкае хрысьціянскае дасканаласьці, а быў адным із спосабаў, якім апранутая ў пабожную слоўнасьць і зьдзівотную абраднасьць, ды абернутая ў зброю перайнятае ад варагаў прагі на чужыя землі, Царква служыла маскоўскім уладарам.

Покуль існавала Бізантыйская імпэрыя гэтае аспрэчваньне пяршынства выяўлялася пераважна ў няўвазе да патрыяршых наказаў ды самахоці ў нутраных парадках, але пасьля займа туркамі Канстантынопаля ў 1453-м годзе вырасла ў бясцырымонны выклік патрыяршаму аўтарытэту, як у межах Маскоўшчыны, гэтак і навонкі.

Фактычна палонены ды пазбаўлены матэрыяльнае базы Канстантынопальскі Патрыярх нятолькі ня мог як сьлед супрацівіцца закладзінам “трэйцяга Рыму” ў Маскве, але, узалежнены ад грашовае адтуль дапамогі, нявольна мусеў паступацца ў абліччы бяспрынцыповае сілы.

Нарэшце ў 1588-м годзе, шукаючы гэтае дапамогі, патрыярх Ярэма падаўся ў Маскву, дзе й быў замкнёны на некалькі месяцаў, пакуль у пачатку 1589-га году ня даў згоды на аўтакефалію Маскоўскае Царквы й устанаўленьне ў ёй патрыярхату.

Гэткім чынам, захоўваючы намінальнае пяршынства, Канстантынопальскі патрыяршы пасад апынуўся ў ролі сьветка павадырства, якое ў праваслаўным сьвеце, абапёршыся на дзяржаўную збройную сілу й багацьце, абняў Маскоўскі Патрыярхат.

Благіх вынікаў гэтага павадырства не давялося доўга чакаць, а ў першую чаргу яны закранулі праваслаўныя землі Вялікага Княства Літоўскага й Украіны, што былі пад духовай апекай Канстантынопаля.

Нажаль, падпарадкаванае Ватыканскім і вузка польскім інтарэсам дзяржаўнае кіраўніцтва Рэчыпаспалітай замест, у адказ на маскоўскі націск і інтрыгі, дамагчыся аўтакефаліі Праваслаўнае Царквы ў сваіх межах ды паспрыяць ейнаму росту, а нат узвышэньне да ўзроўню патрыярхіі, пайшло на прымусовае ўвоžджаньне вуніі, гэтым абяртаючы настроі немалое часткі грамадзянаў у варожасьць да свае дзяржавы, або, у найлепшым выпадку, робячы іх абыякавымі.

Масква, тымчасам, ейныя спрэжаныя імкненьні да

пашырэньня дзяржаўных і царкоўных уладаньняў ужыцьцяўляла як намовамі пакрыўджанага каталікамі насельніцтва, гэтак і сілай зброі, ды, захапіўшы ўрэшт частку земляў Вялікага Княства Літоўскага й Украіны, падпарадкавала праваслаўных вернікаў на іх, а заадно й у цэлай Рэчыпаспалітай, юрысдыкцыі Маскоўскае Патрыярхіі, на што, у бязвыходным становішчы, у 1687-м годзе даў згоду й Канстантынопальскі патрыяршы пасад.

Усё-ж, нават гэтая, верна аддадзеная службе росту імпэрыі, установа Патрыярхіі ня была, уваччу маскоўскага самадзяржаўя, даволі надзейнай прыладай і, пасьля сьмерці Патрыярха Андрыяна ў 1700-м годзе, Пётра I-шы пачынае рэформы, што ў 1721-м годзе завяршаюцца абярненьнем царкоўнага кіраўніцтва ў дэпартамэнт дзяржаўнае адміністрацыі з самым царом на чале.

З сумам трэба сказаць, што, як і сілаю ўзятую Масквою аўтакефалію й патрыярхат раней, гэтак і неканані́чную Пётравую рэформу пазьней, Канстантынопальскі патрыяршы пасад вызнаў за адпаведную царкоўным парадкам.

З тае пары аж праз 200-це гадоў і павялося атаесамліваньне Праваслаўя з воляй расейскага цара й інтарэсамі ягонае імпэрыі, ды пашырэньне гэткае веры дзе-б толькі не сягала сіла маскоўскае зброі, спраўнасьць ейнае дыплямацыі, ці хітрасьць ейных купцоў.

Накоратка гэткія справы зьмяніліся адно пасьля бальшавіцкае рэвалюцыі ў Расеі, калі бязбожная савецкая ўлада паставіла сабе за мэту зьнішчыць Царкву дазваньня й амаль гэта асягнула.

За гэтыя два дзясяткі год паўсталі аўтакефальная й аўтаномныя Праваслаўныя Цэрквы ў створаных пасьля I-шае сьветняе вайны новых дзяржавах, якія падаліся пад апеку Канстантынопальскага Патрыярха, ды ськіваваная на Маскву арыентацыя Цэркваў, што ўжо існавалі, таксама адхілілася ў бок Канстантынопаля.

З пачаткам нямецка-савецкае вайны ў 1941-м годзе крамлёўскія ўладары ўцямілі, аднак, карысьць у краі й навонкі з паслухмянае Царквы, ды ўпраглі яе ў службу іхнае цынічнае й злачыннае палітыкі.

У гэтай службе ўзгадаваліся й асягнулі свае становішчы амаль усе цяперашнія герархі Расейскае Праваслаўнае Царквы, у тым ліку й Патрыярх Аляксей I-шы, ды Беларускі Экзарх Мітрапаліт Філарэт, што займаў неабыякое мейсца кіраўніка адзьдзелу вонкавых дачыненьняў Маскоўскае Патрыярхіі.

У розьніцу ад не малое колькасьці людзей розных зайняткаў, што ад вымушанае савецкае ўладай іхняе ранейшае дзейнасьці адвярнуліся, расейскія царкоўныя кіраўнікі за свае мінулыя ўчынкі нятолькі не пакаяліся, але й працягваюць выконваць заданьні нязьменнае пры царскай і савецкай, ды, відаць, пры кожнай іншай уладзе расейскае захопніцкае палітыкі ў краінах былога СССР, ды па ўсім сьвеце.

Найбольш прыкметнымі выявамі гэткага іхнага ймкненьня могуць быць спрэчкі, што завязаліся паміж Маскоўскім і Канстантынопальскім Патрыярхам з прычыны прыйма апошнім пад ягоную апеку аўтаномнае Эстонскае Праваслаўнае Царквы й Украінскае Праваслаўнае Царквы ў ЗША.

Нажаль войстрыя лістоўныя спрэчкі паміж абодвымі патрыярхамі ўзаемных супярэчнасьцяў не разьвяжуць, бо дзеі Канстантынопальскага пасаду палохаюць Маскву стратай Украіны, а за ёю й Беларусі, ды згубай з гэтае прычыны значаньня ў міжцаркоўнай палітыцы, а Канстантынопальскі Патрыярх, каб ня быць веселеным турэцкім урадам зь Істамбулу, мусіць здабыць сабе якнайшырэйшую падтрымку ў сьвеце.

Таму надзеі на хуткае задзіненьне Праваслаўных Цэркваў у падобную да Каталіцкага Касьцёла супольнасьць пакуль-што ня вельмі вялікія.

Нам, праваслаўным беларусам тымчаса трэба менш лятуцець праз высокія агульнацаркоўныя мэты, на якія мы ніякага ўплыву зрабіць ня можам, а прысьвяціць нашую дзейнасьць на захаваньне Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы за мяжою, а праз гэта й на Ейнае ўзнаўленьне на Бацькаўшчыне.

І ня трэба палохацца закідаў некананічнасьці нашае Царквы, бо яна створаная й дзее згодна з усімі канонамі, а нявызнаная, як гэта раней здаралася й зь іншымі Праваслаўнымі Цэрквамі, з прычынаў дзяржаўна-палітычных.

Таму, адбудоўваючы нашую Сьвятую Царкву на Бацькаўшчыне мы павінны парупецца й праз стварэньне няшкодных Ёй палітычных абставінаў.

## БАПЦ У СПРАВЕ СУПРАСЬЛЮ

28-га верасьня 1995-га году напярэдадні візыту Яна Паўла II-га ў ЗША, Першагерарх БАПЦ Я.М. Ізяслаў накіраваў лісты ў Белы Дом да Прэзыдэнта ЗША Біла Клінтана, у Дзяржаўны Дэпартамэнт ЗША, сэнатарам і кангрэсмэнам.

На працягу будучага візыту, гаворыцца ў лістох, Яго Сьвятасьць Ян Павал II-гі несумненна будзе заклікаць да братэрскае любові паміж Хрысьціянамі й экумэнічнага збліжэньня Цэркваў. Сытуацыя, калі да падобных высакародных заклікаў Сьвяцейшага Айца прыслухоўваюцца ў Амэрыцы ды ва ўсім сьвеце, ды толькі ў роднай яму Польшчы ня хоча чуць іх Польскі Рыма-каталіцкі Касьцёл, у лісьце называецца трагічнай. Дух талеранцыі й экумэнізму ў дактрыне каталіцтва, не перашкаджае Польскаму Касьцёлу культываваць сярэднявечны дух неталеранцыі й канкістадорскі апэтыт ультра-нацыяналізму.

Ахвярамі нянавісьці, пішацца далей, ёсьць і Ўсходне-Праваслаўныя Хрысьціяне, якіх Ян Павал II-гі называе брацкімі, а менавіта беларуская этнічная меншасьць у паўночна-ўсходняй Польшчы.

Лісты інфармуюць пра трагічныя этапы гісторыі жыцьця беларусаў у Беластоцкім рэгіёне Польшчы ды формы стасаванага да іх перасьледу. Фактычным працягам практыкі этнічных чыстак называюцца ў лістох заявы польскіх ксяндзоў, нібы беларусы ў Беластоцкі Край завезеныя былі царскім урадам Расеі, ды таму ёсьць тут чужародным ненатуральным элемэнтам. Ведаючы пра ўплыў думкі Касьцёла на польскую палітыку й настроі грамадзтва, можна дачакацца, гаворыцца ў пасланьнях БАПЦ, што варожасьць да беларусаў можа не застацца бязьдзейная.

Пасланьні найперш уздымаюць праблему найдаўняй праваслаўнай сьвятыні Польшчы — Супрасльскага манастыра, які колькі год таму вернуты быў Польскім урадам Праваслаўнай Царкве, ды цяпер ізноў дыскутуецца пытаньне пра перадачу манастыра Рыма-каталіцкаму Касьцёлу.

Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў у сваіх лістох прасіў спрыяньня ў разьвязаньні праблемаў вакол Супрасльскага манастыра ды спрыяньня беларускай праваслаўнай меншасьці ў Польшчы.

У атрыманым неўзабаве адказе ад Дзярждэпартамэнту ЗША паведамляецца, што узьнятыя БАПЦ праблемы прыйнятыя пад увагу ды пра наяўнасьць міжурадавых кантактаў паміж ЗША і Польшчай у справе аховы правоў нацыянальных меншасьцяў.

## ДЗЕНЬ ПАМЯЦІ ЗМАГАРОЎ ЗА НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ БЕЛАРУСІ

19-га лістапада г.г. у Катэдральным Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага пасьля нядзельнае СьвЛітургіі ад-. адбыўся Малебен Памяці Змагароў за Незалежнасьць Беларусі, які адправіў Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў.

Пасьля адправаў у грамадзкай залі ўрачыста быў адсьвяткаваны Дзень Памяці Змагароў за Незалежнасьць Беларусі, прымеркаваны да 75-х уодкаў Слуцкага Збройнага Чыну.

Адкрываючы ўрачыстасьць сп. Уладзімер Курыла патлумачыў важнасьць ўшанаваць у гэты дзень ня толькі гэраічных Случакоў, але й ушанаваць усіх беларускх змагароў. Ён жа схарактары- заваў сытуацыю ў Беларусі, якая паказвае, што, на жаль, змаганьне яшчэ не скончылася.

З прынагодным рэфэратам выступіў сп. Юрка Васілеўскі, які паказаў гісторыю барацьбы беларусаў з акупацыямі на працягу двох апошніх стагодзьдзяў, згадваючы гэраічны чын атрадаў Кастуся Каліноўскага, "Зялёнага Дубу", Беларускую Краёвую Абарону, Саюз Беларускае Моладзі, Беларускую Незалежніцкую партыю, ажно да сучаснага вызвольнага нацыянальнага руху на Бацькаўшчыне.

Пасьля рэфэрату ведамая артыстка сп-ня Рыма Маленчанка выступіла з кампазыцыяй паводле твору В.Быкава "На чорных лядах, у якім апавядаецца пра лёс слуцкіх змагароў..

Далей, выступалі ведамыя сьпевакі Валянтына Пархоменка, Вольга й Алесь Казакі, якія парадавалі прысутных народнымі, патрыятычнымі ды іншымі песьнямі ў цудоўным выкананьні.

Жыве й будзе жыць Беларусь! Трывае й пераможа змаганьне за НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ!

## ПАДЗЯКА

Парахвіяльная Рада Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне й Рэдакцыйная Калегія "Царкоўнага Пасланца" выказваюць шчырую падзяку нашым выдатным артыстам: сп-ву Валянтыне й Алесю Казакам з дачкой Оляй ды сп-ні Рыме Маленчанцы за іхныя выступы на канцэрце з нагоды Дня Памяці Змагароў за Незалежнасьць Беларусі 19-га ліст. г.г.

Высокі мастацкі ўзровень іхнага выкананьня роднага слова й песьні, што ўжо колькі год захапляе беларусаў Амэрыкі, і гэтым разам даў вялікую духовую насалоду прысутным, а адмова ад матарыяльнае ўзнагароды ўзбагаціла фонд на ацяпленьне царкоўнага будынку падчас адправаў у зімовую пару.

Як дагодна Богу й карысна Беларускай Справе было-б, каб з гэтага, ня першага ўжо, добрага ўчынку нашых паважных артыстаў узялі прыклад і іншыя мастакі беларускага слова й песьні, што жывуць у Амэрыцы.

Рэдакцыйная Калегія "Царкоўнага Пасланца" таксама моцна дзякуе й за атрыманыя на выданьне часапісу ахвяры ад наступных асобаў: сп. Ю.Васілеўскі — 10.00 д., сп-ня Р.Галяк — 50.00 д., сп. М.Грэбень — 45.00 д., сп. Я.Калюцік — 15.00 д., Кансысторыя БАПЦ — 150.00 д., сп. Ю.Касьцюкевіч — 4.00 д., а. пірсьв. А.Кулакоўскі — 5.00 д., сп. Ю.Навумчык — 10.00 д., сп. П.Пікулік — 5.00 д., сп-ня А.Протас — 10.00 д., сп-ва М. і О.Тулейка — 20.00 д., сп. Л.Юрэвіч — 5.00 д., сп. Я. Юхнавец — 5.00 д.

Разам з падзякай усім дасюлешнім дабрадзеям Рэдакцыйная Калегія заклікае ўсіх чытачоў "Царкоўнага Пасланца" шчодрымі ахвярамі памагчы выдаваць часапіс найменш чатыры разы ў год і гэткім чынам зрабіць справу Беларускае Праваслаўнае Аўтакефаліі галоснай і нязмоўкнай, як на эміграцыі, гэтак і на Бацькаўшчыне, ажно да ейнага гэнам ужыцьцяўленьня.

## СЛУЖБОЎНІК

### /Працяг. Пачатак гл. Нр. II/36/46/

Пасьля зазладанага ўпрашаньня, дзе ў папярэднім нумары "Ц.П." спыніўся агляд выдадзенага ў 1994-м годзе ў Таронта "Службоўніка", у Сьв. Літургіі йдзе сьпеў першага антыфону /перасьпеву/, г.зн. 102/103/-га псальму ў нядзелі, або 91/92/-га ў нясьвятнія дні тыдня.

У першым зь іх перакладнік ужывае ўлюбаванае ім слова "дабраслаў", якое, ужо папярэдне было сказана, інакш, як пустазельлем у нашай мове назваць нельга.

Запраўды, адно нарадзіўшыся глухім да асаблівасьцяў роднае мовы, можна здабыць адвагу, каб уводзіць у яе гэткае, як Франкэнштайн сшытае, дзівоцьце.

Ці-ж ня мілей для вуха й не разумней для думкі гучэла-б гэтта "хвалуй, мая душа" ды, калі ня боязна свайго, дык "Гаспадара", а ня "Господа".

Як раней ва ўпрашаньні, гэтак і ў псальмах ды ўсюды, перакладнік амаль бяз выйнятку, ужывае чужы нашай мове парадак словаў у сказе, прыкл. "душа мая, нутро маё, імя Ягонае, дабрадзействаў Ягоных, бяспраўі твае, немачы твае", замест "мая душа, маё нутро, Ягонае імя" й пад.

Калі-б гэта зрабіў перакладнік у якой-колечы іншай мове, дык яго чятолькі што не надрукавалі-б, але й высьмяялі-б, а ў нас, ня прыглядзеўшыся, шчодра сыплюць тысячамі, патрэбных на лепшыя справы, даляраў ды б'юць у ладкі.

Далей, у прыпеве да 91/92-га псальму, у перакладзе кажацца "малітвамі Багародзіцы, Спасе, ратуй нас", што гучыць як-бы прасьба, каб на наш ратунак нам былі дадзеныя, як лякарствы, малітвы Багародзіцы.

Запраўдны-ж сэнс гэтага прыпеву ў тым, што ў ім зьвяртаемся, каб з увагі на малітвы Багародзіцы, або проста кажучы "дзеля малітваў", або "праз малітвы Багародзіцы", атрымаць ратунак.

Але ў гэтым кароткім прыпеве на адным агрэху не канец, бо ўсьлед у ім устаўленае яшчэ й слова "Спас", што кожнаму б'е ў вушы, як непатрэбны русіцызм, замест якога трэба ўскрозь трымацца свайго роднага "Збавец, Збаўча".

Таксама й "ратуй", ці ў запраўднасьці "выратуй нас", гэтта зусім не адпаведнае, бо не з вады выцягнуць нас просім, але, сказаўшы як трэба "збаў нас", па збаўленьне нашых душаў зьвяртаемся.

Што да кароткага ўпрашаньня, якое йдзе сьледам, дык у ім, як і раней у зазладным, перакладнік заклікае да малітвы ў абвесным ладзе "...у спакоі Госпаду памолімся", калі гэтта патрэбен загадны лад і зьмена клічнага слова "памалемся" на больш адпаведнае "ўпрашайма".

У другім выгаласе гэтага ўпрашаньня бліжэй да ц.-славянскага арыгіналу было-б усё-ж мовіць не "памажы, ратуй, зьмілуйся і акрый нас Божа ласкаю Тваёю", як кажа перакладнік, а "заступіся, збаў, зьмілуй і ахавай нас Божа Тваёй ласкай".

Паколькі трэйці выгалас гэтта аднолькавы з канцавым выгаласам зазладанага ўпрашаньня, дык папярэдня выказаныя заўвагі датычаць і гэтага мейсца.

Наступным у Сьв. Літургіі йдзе другі антыфон /перасьпеў/, што складаецца з пачатных радкоў 145/146/-га псальму, а ў несьвятнія дні тыдня з разьдзеленай прыпевамі часткі 92/93-га псальму, пасьля якіх заўсёды сьпяваецца "Адзінародны

Сыну".

Нястача мейсца не дазваляе, нажаль, разьбіраць слабасьці перакладаў зьмешчаных у "Службоўніку" псальмаў, усё-ж нельга прамаўчаць, што ў 92/92-м псальме ц.-славянскае "свидения Твоя" ня значаць "Тваe сьветчаньні", а "Тваe загады", або "наказы", праз што сьветчаць нятолькі ўсе іншамоўныя пераклады псальмаў, але й даступны на эміграцыі "Полный церковно-славянскій словарь" Грыгорыя Дзячэнка /т.2, бач.576/.

У прыпевах да 92/93-га псальму выяўляюцца тыя-ж самыя заганы, што й у прыпевах да 91/92-га, аб якіх была ўжо гутарка раней.

Горш яшчэ справа стаіць зь перакладам песьні /гімну/ другога антыфону, дзе ўжо ў пачатку пабеларуску нявыразна гучыць слова "адзінародны", таму, што яно выклікае няўпэўненасьць, ці гутарка йдзе праз адзінага роднага, а не прыйнятага /усыноўленага/ сына, ці праз сына, што адзін у родзе, але не кажацца чый, ці ўрэшце маецца на ўвазе адзіны Сын, што з Бога нарадзіўся, а ня створаны быў, як кажацца ў Сымбалі веры.

Таму, здаецца, магло-б быць дастаткова сказаць "адзіны Сыну", а калі не, дык ужо лепш разьвіць слова "адзінародны" ў апісаньне "адзіны народжаны Сыну", якое з усьледным азначэньнем дазваляла-б ямчэй зразумець ягоны сэнс.

Нажаль, таго ўсьледнага ц.-славянскага азначэньня "Слове Божий" перакладнік зусім не разумее, бо падае яго як "Бог Слова", тады, калі кожнаму ясна, што яно значыць "Божае Слова".

"Божае слова" ўжываецца гэтта, каб растлумачыць, што Божы Сын нарадзіўся ня ў выніку плодзьнае жарсьці, але пайшоў з Айца, як слова йдзе ад розуму праз вусны й з розумам яно роўнапачатнае й непадзельнае.

Перакладніку, маючы прэтэнзыі на царкоўнае кіраўніцтва, трэба было-б гэтае асновы веры навучыцца, каб ня зводзіць вернікаў у блуд.

Далей, у няўдалым наагул тэксьце, а які цалком папраўляць няма мейсца, перакладнік ужывае фразу "сьмерцяю сьмерць патаптаў", дзе апошняе слова гучыць непаважна ды й ня мае патрэбнага значаньня "перамог".

Куды лепш гэтта сказаць "зьвярнуў", бо тады, да рэчы, і вялікодны трапар можна было-б зрыфмаваць вось гэтак: "Хрыстос, устаўшы з умерлых, сьмерцяю сбмерць зьвярнуў і тым, што ў магілах, жыцьцё Ён вярнуў".

Пасьля другога антыфону йдзе яшчэ яшчэ раз кароткае ўпрашаньне, аб якім ужо была гутарка раней і да канцавога сьвятарскага выгаласу ў гэтым мейсцы трэба адно заўважыць, што слова "любіцель/людзей/" адчуваецца як "аматар", ці "непрафэсыянал", а таму зварочваючыся да Бога лепш было-б гэтта казаць апісальна "бо Ты, Божа, ласкаў і людзей любіш, і Табе славу ўзвыш шлем...".

Гэткім чынам мы ўрэшт дайходзім да трэйцяга антыфону /перасьпеву/, у якім перакладнік узноў садзіць на кветным полі беларускае мовы магутную асоціну.

Інакш бо нельга назваць склеенае ім слова "дабрашчасныя" на азначэньне ц.-славянскага "блажени", а гэта таму, што ня гледзячы на гутаркавыя спосабы выяўленьня ступені "шчасьця", як прыкл. "вялікае, малое, слабое", яно ўсё-ж застаецца разуменьнем дабра, зь непатрэбнага ўзмацненьня якога паляпшальным прыметнікам ствараецца, падобная на прыказкавае польскае "масло маслянэ", недарэчнасьць.

Апрача таго "шчасныя" гэтта нават без "дабра" ня зусім на мейсцы, бо ў перасьпеве йдзе гутарка не праз тых, якім пашанцавала, парой, бяз прычыны, а адцень гэткага значаньня ў слове "шчасьце", бязумоўна, ёсьць, але маюцца наўвеце тыя, што за нейкую ахвяру зь іхняга боку на зямлі, атрымаюць шчодрую ўзнагароду на небе.

Успомніўшы гэтта слова "шчодры", а зь ім і "шчадрыць", прыйходзіць думка, што апошняе й мае значаньне "узнагароджваць", дык і ўзнагароджаных, ці "блаженных" можна зусім удала назваць "шчадронымі".

Адным гэтым словам, аднак, трэйцяга антыфону ня вылячыць, бо ў ягоным перакладзе нятолькі замест паэзыі - ц.-славянскага арыгіналу скарыстаная беларуская мова, што гучыць як пабіты збан, але, хоць-бы ў перадапошняй, найпрыгажэйшай частцы зробленыя адвольныя зьмены з "егда поносят вам, и изженут, и рекут всяк зол глагол на вы лжуще Мене ради" на "калі вас крыўдзяць і кажуць пра вас усякую няпраўду дзеля Мяне", хоць бліжэй было-б "калі лаяцьмуць вас, і ўгнятуць, ды мовяць усялякім брыдкім словам на вас праз Мяне йлгучы".

Замест "шчадроных" у несьвятнія дні тыдня сьпяваецца назьмену з прыпевам пачатная частка 94/95-га псальму.

Не займаючыся гэтай часткай псальму, бо ў ёй незначныя агрэхі, даводзіцца, аднак, закрануць прыпеў, а таму, што ён з уступным заклікам сьпяваецца й пасьля малога ўваходу, які йдзе ўсьлед за 3-м антыфонам, дык ягоны разгляд будзе крыху ніжэй.

Перад тым бо трэба заўважыць, што наступны за антыфонам выгалас "премудрость, прости" на нашую мову варта пералажыць не як "прамудрасьць, стойце ўважна", але як "наймудрасьць", ці "звышмудрасьць" і "станьце годна".

Дайшоўшы да нядаўна ўспомненага прыпеву нельга пагадзіцца зь перакладнікам, што "прыйдзеце, паклонімся й прыпадзем да Хрыста" апавядае сэнсу й ладу ц.-славянскага сказу "приидите, поклонимся и припадем ко Христу".

Лепш было-б яго пераказаць, або як "прыйдзеце, пакланемся ды ўпрашайма Хрыста", або як "прыйдзеце пакланіцца ды ўпрашаці Хрыста".

Таксама найбліжэй да зьместу другое, сьпяванае ў нядзелі, часткі прыпеву "спаси ны, Сыне Божий, воскресый из мертвых, поюшия Ти: аллилуіа" было-б казаць не "ратуй нас, Сыне Божы, што ўваскрос зь мёртвых, мы пяем Табе : алілуя", а "збаў нас, Божы Сыну, што Табе мы пяем:

У несьвятнія дні тыдня ў гэтым сказе, замест пададзенага перакладнікам "...вялікі ў сьвятасьці сваёй", павінна гучэць "збаў нас, Божы Сыну, дзівосны ў Сьвятых, што Табе мы пяем: алілуя".

Згадаўшы, што "алілуя" ў перакладзе значыць "хвалеце Бога", пахвалою Яму й спынім сёньня агляд "Службоўніка".

**Барыс Данілюк**

## "ГОЛАС ЦАРКВЫ"

З увагі на цяжкасьць здабыцьця дастатковае колькасьці адпаведных да друку ў "Голасе Царквы" матэрыялаў ды патрэбу грашовае ашчаднасьці, выданьне часапісу, да зайснаваньня лепшых на гэта магчымасьцяў, спыненае.

Частка прызначаных да друку ў "Голасе Царквы" допісаў, калі дазволяць матэрыяльныя абставіны, будзе друкавацца на бачынах "Царкоўнага Пасланца".

Рада Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, што выдавала "Голас Царквы" ад Вялікадня 1955-га году да гэтае пары, затрымоўвае за сабою вылучнае права на карыстаньне назовам часапісу й узнаўленьне ягонага выданьня, калі зьявяцца на гэта магчымасьці.

## БЕЛАРУСКІЯ ПРАВАСЛАЎНЫЯ КАЛЯНДАРЫ БАПЦ

Сёлета, як і папярэднімі гадамі, дзякуючы ахвярнай працы А. ППрсьв. А.Кулакоўскага, у Мэльбурне, што ў Аўстраліі, узноў выдадзены Беларускі Праваслаўны Каляндар-кніжка на 1996-ты год.

У каляндары апрача патрэбных кожнаму праваслаўнаму беларусу каляндарных вестак, зьмешчаныя артыкулы й матэрыялы на рэлігійныя, ды беларускія патрыятычныя тэмы.

Апрача каляндара-кніжкі, дзякуючы шчодрасьці пахавальнае ўстановы М.А.Малішэўскага йз Саўт Рывэру, Н.Дж., якая ўжо даўно займаецца ладжаньнем пахаваньняў на беларускіх праваслаўных могілках у Іст Бранзвіку, сёлета таксама надрукаваны й насьценны Беларускі Праваслаўны Каляндар Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне.

Абодва каляндары можна прыдбаць пры наведаньні Божых Службаў у Катэдральным Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне й іншых сьвятынях БАПЦ.

Цана настольнага каляндара-кніжкі — 3.00 дал., а насьценнага — 2.00 дал.

**Алесь Салавей**

## КРЫЖОВЫ ШЛЯХ

Нарадзіўся Ты — з Табою
быў Ісус Хрыстос.
Змыць Цябе валвой прыбою
прагнуў бураў стос.

Дзень мінаў — разбою хвалі
большалі ўтрая.
У разьюшанай навале
стаў на ногі я.

Несьлі разам крыж пакуты —
Ты і я з Табой,
і цяглі няволю й путы
зморанай ступой.

Чорт вязаў нас ланцугамі,
нашы душы трос.
Мы цярпелі — разам з намі
быў Ісус Хрыстос.

А пасьля... Твой твар пахмуры...
Ты ў агні гарыш...
Разлучылі нас віхуры
стаў цяжэйшы крыж.

Ня міну з тупой гурбою
ні аднэй вярсты.
Там, дзе Ты — і я з Табою,
а дзе я — там Ты.

Да ўваскрэсну ў сьвет нязнаны
дойдзе — хто ўсё знёс.
Мы ідзём, і разам з намі —
Сам Ісус Хрыстос.

Кірхгайм, Аўстрыя, 1945

## ДА НАШЫ ЧЫТАЧОЎ НА БЕЛАРУСІ Й У СЬВЕЦЕ

Нечаканая й мала кім, як трэба, ацэненая дзяржаўная незалежнасьць нашае Бацькаўшчыны сёньня варожымі сіламі абяртаецца ў ніштo, а на ейнае мейсца варочаецца грэбаванне й ненавісьць да ўсяго беларускага, ды няпрыхаванае ймкненьне завясьці ўсе, Богам дадзеныя, нашыя нацыянальныя асаблівасьці са сьвету.

Як ня горка ўсьведамляць, але гэты народагубны наступ вядуць ня толькі без належнае развагі выбраныя, а пастаўленыя на абарону, ды ўмацаваньне незалежнасьці дзяржаўныя ўлады, але супольна й згодна зь імі таксама й пастаўленая сілай у нашым Краі калянізатарская прыбудова Маскоўскае Патрыярхіі.

Спрактыкавана абдуманая й нахабна, ня без дапамогі гвалту, узьнятая гэтая навала на ўсё, што стварае жыцьцё Беларускае нацыі, абапіраецца на манаполь інфармацыі, або, дакладней кажучы, на афіцыйнае махлярства.

У паводцы-ж хітрае й зманлівае варожае прапаганды, што залівае наш Край, немалую долю нясуць і выказваньні, ды публікацыі Экзархату Маскоўскае Патрыярхіі ў Беларусі, і прыбудоўных да яго арганізацыяў.

У зладную зь імі дудку граюць і дзеі, ды вoрганы некаторых іншых веравызнаньняў, што абяцаюць збаўленьне за адрок ад Праваслаўнае Веры, а нават і свайго Народу.

Нідзе нячуцён адно й нявідзён у прэсе дасюль быў голас праўды, што дзяржаўная незалежнасьць нашага Краю немагчымая без свае роднае патрыятычна настроенае Праваслаўнае Царквы, што праваслаўная бальшыня Беларускага Народу на гэткую, ад няшчырых апякуноў звонку незалежную Царкву мае кананічнае права й, яшчэ што гэтая, хоць і аслабленая варожымі інтрыгамі Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква ёсьць за мяжою, ды чакае Ейнага ўзнаўленьня на Бацькаўшчыне.

Гэты, абыяка дасюль збыты нават пабожным нацыянальным актывам, голас і адважыўся зь неабходнасьці ўзьняць на ўсю моц "Царкоўны Пасланец".

Ня дасьць бо нічога ў пабудове свае Царквы распаўсюджваньне нясьпелых яшчэ, нажаль, перакладаў малітваў і адправаў, калі да іхнага прыйма ў ахвочае карыстаньне праваслаўныя беларускія вернікі ня будуць падрыхтаваныя згодным з Божай Праўдай і Навукай адказам на нягодную ману.

Таму, што не ў адной мове выўляецца нацыянальная існасьць Царквы, бо, як даводзіцца бачыць цяпер, і на роднай мове можна пісаць здрадніцкую прапаганду, але гэная нацыянальная існасьць Царквы, як і ў іншых народаў, фармуецца Божай Мудрасьцяй з дадзеных Ёю нацыянальных асаблівасьцяў у пабожную будоўлю, якую красіць хараство роднае мовы.

Каб гэты, покуль-што кволы, голас "Царкоўнага Пасланца" дайшоў да якнайбольшае колькасьці праваслаўных вернікаў на Бацькаўшчыне, трэба яшчэ нямала працы, намаганьняў і як мага шырэйшая падтрымка, як духовая, гэтак і матэрыяльная ад усіх сьведамых беларусаў, якім на сэрцы асягненьне настаўленае Рэдакцыйнай Калегіяй "Царкоўнага Пасланца" перад сабою мэты.

Мы спадзяемся, што й Вы, Дарагі чытачу, належыце да гэтае вартаснае й пабожнае часткі нашага Народу.

Калі Вы жывяцё на Бацькаўшчыне, задумайцеся, як памагчы справе ўзнаўленьня Беларускае

Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ды шукайце да працы на гэтую мэту аднае з Вамі думкі людзей, а пакуль гэта збудзецца памагайце "Царкоўнаму Пасланцу" якнайшыршэй разыйходзіцца ды навязвайце зь ягонай Рэдакцыйнай Калегіяй лучнасьць.

Калі-ж Вы з Божае Ласкі, Дарагі Чытачу, апынуўшыся за межамі Бацькаўшчыны, а ня згубілі да яе любасьці й жаданьня Ёй Божае Ласкі, дык падтрымайце "Царкоўнага Пасланца" патрэбнай парадай ды шчодрай ахвярай.

Ды не абмяжоўвайце Вашае ахвяры да патрэбаў часапісу, а адгукайцеся, як сёньня Вас просім, і на неабходнасьць утрыманьня Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне, без матарыяльнае падтрымкі ад якога выданьне "Царкоўнага Пасланца" было-б немагчымым, ды бяз існаваньня якога справа беларускае аўтакефаліі наагул замерла-б.

Зь вераю, што незалежна ад юрысдыкцыі царквы, у якой Вы моліцеся, мэта ўзнаўленьня Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы на Бацькаўшчыне дарагая Вашаму сэрцу й Вы падтрымаеце ейнае пашырэньне там праз "Царкоўнага Пасланца" Вашай, падказанай сумленьнем, ахвярай, шчыра жадаем Вам Радасных Калядаў і памыснасьці налета ў кожнай добрай справе!

**Рэдакцыйная Калегія "Царкоўнага Пасланца"**

CHURCH MESSENGER, P.O. BOX 5982, SOMERSET, N.J. 08875-5982

**St. Cyril's of Turau Cathedral**
**of the**
**Belarusian Autocephalous**
**Orthodox Church in America**
**401 Atlantic Avenue**
**Brooklyn, N.Y. 11217-1702**

**NONPROFIT ORG.**
**U.S. POSTAGE**
**PAID**
**SOMERSET, N.J.**
**PERMIT NO. 44**

**Царкоўны Пасланец**
**CHURCH MESSENGER**
**Vol. 23, No. 3, X-Mas 1995**
**ISSN 1085-973X**

ADDRESS CORRECTION REQUESTED

**Return Address:**
**P.O. Box 5982**
**Somerset, N.J 08875-5982**